№1-2 (305-306)
2012

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь




Каля беларускай амбасады ў Стакгольме 31 студзеня прайшоў пікет у падтрымку праваабаронцы Алеся БЯЛЯЦКАГА.

# Прававое бясчынства

## Прысуд Алесю Бяляцкаму пакінуты без зьменаў: 4,5 гады пазбаўленьня волі за абарону правоў чалавека

Менскі гарадзкі суд 24 студзеня разгледзеў касацыйную скаргу праваабаронцы Алеся Бяляцкага на прысуд, вынесены яму два месяцы таму судом Першамайскага раёну сталіцы. Бяляцкага ў суд не прывезьлі. Зала паседжаньня была запоўненая практычна ўся. Акрамя сваякоў Бяляцкага, было шмат журналістаў, грамадзкіх актывістаў, замежных дыпламатаў. Фотакарэспандэнтам забаранілі весьці здымкі.

Адвакат Дзьмітрый Лаеўскі заявіў шэсьць хадайніцтваў: выклікаць у суд А. Бяляцкага; запатрабаваць у арганізацыяў, з якімі супрацоўнічаў сп. Бяляцкі, прычыны пераводу на яго рахунак грашовых сродкаў, а таксама высьветліць, ці былі ў сп. Бяляцкага дамоўленасьці на выкананьне пэўных дзеяньняў з гэтымі сродкамі; прыкласьці да матэрыялаў крымінальнай справы плацежныя даручэньні аб пераліку на рахунак суда Першамайскага раёну Менску сумы ўрону, які нібыта нанёс сп. Бяляцкі і які пагасілі на мінулым тыдні прадстаўнікі грамадзкасьці; прыкласьці да справы копіі дакументаў аб набыцьці сп. Бяляцкім маёмасьці; адкласьці разгляд касацыйнай скаргі датуль, пакуль ня будуць прадстаўленыя дакументы пра рух грашовых сродкаў на рахунках сп. Бяляцкага; адмяніць цяперашнюю меру стрыманьня сп. Бяляцкаму – утрыманьне пад вартай.

Трэцяе і чацьвёртае хадайніцтвы адваката (аб прыкладаньні плацежнага даручэньня пра пералік сумы ўрону і копіяў дакументаў аб набыцьці сп. Бяляцкім маёмасьці) суд задаволіў адразу. Для прыняцьця рашэньняў па астатніх хадайніцтвах трое суддзяў выйшлі ў дарадчы пакой. Вярнуўшыся, суд адхіліў чатыры хадайніцтвы. Затым пачаліся спрэчкі адваката і пракурора.

Дз. Лаеўскі адзначыў, што ў аснову высноваў суда першай інстанцыі былі пакладзеныя зьвесткі з банкаў Літвы і Польшчы, атрыманыя з парушэньнем нормаў міжнароднага заканадаўства. Акрамя таго, гэтыя дакументы не ўтрымліваюць подпісаў і пячатак службовых асобаў банкаў і ня могуць быць выкарыстаныя ў якасьці доказаў. Абаронца таксама зьвярнуў увагу суда, што не было праведзенае выманьне першасных дакументаў з банкаў і не здымаліся дадзеныя з электроннай банкаўскай базы.

Адвакат дадаў, што практычна ўся маёмасьць, на якую судом быў накладзены арышт, была набытая ягоным падабаронным у перыяд шлюбу, а такім чынам, зьяўляецца сумеснай уласнасьцю. Між тым, меркаванне жонкі ягонага падабароннага судом дасьледаванае не было. Адвакат папрасіў прысуд адмяніць, а крымінальную справу ў дачыненьні да сп. Бяляцкага – спыніць.

У сваю чаргу, пракурор Кірыла Чубкавец, які прадстаўляў у судзе бок абвінавачаньня, падкрэсьліў, што суд Першамайскага раёну Менску пры разглядзе справы кіраваўся доказамі, якія зьяўляюцца дастатковымі. Ён выказаўся супраць аргументаў боку абароны і яе думкі аб тым, што А. Бяляцкага варта апраўдаць, ягоныя касацыйныя скаргі задаволіць і вытворчасьць па справе спыніць.

(Працяг на стар. 5)

*Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by*

# Пародыя на правасуддзе

## Заява Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў па справе Алеся Бяляцкага

Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў (сумесная праграма Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусьветнай арганізацыі супраць катаваньняў (OMCT)) рашуча асуджае рашэньне, згодна з якім прысуд аб турэмным зьняволеньні старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" і віцэ-прэзідэнта FIDH сп. Алеся Бяляцкага быў пакінуты без зьменаў.

24 студзеня Менскі гарадзкі суд пацьвердзіў прысуд праваабаронцу Алесю Бяляцкаму ў выглядзе зьняволеньня тэрмінам на чатыры з паловай гады ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці, у тым ліку памяшканьня, якое выкарыстоўваецца ў якасьці офісу "Вясны", за "ўтойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры ў адпаведнасьці з раней дасягнутымі дамоўленасьцямі" згодна з артыкулам 243, частка 2, Крымінальнага кодэксу. Інтарэсы сп. Бяляцкага прадстаўляў ягоны адвакат. Слуханьне, якое доўжылася 40 хвілінаў, завяршылася прысудам, вынесеным праз паўтары гадзіны.

Пасьля прысуду суда першай інстанцыі 24 лістапада 2011 г. беларускія няўрадавыя арганізацыі пачалі кампанію па зборы грошай для таго, каб пакрыць матэрыяльны ўрон, нібыта нанесены дзяржаве, і судовыя выдаткі, што склала ў агульнай суме 757 526 717 беларускіх рублёў (прыкладна 70 тысячаў еўра), у адпаведнасьці з прысудам суда першай інстанцыі. За некалькі дзён да разгляду касацыі ўся сума штрафу была сплочаная. Чатыры з шасьці хадайніцтваў, заяўленых адвакатам сп. Бяляцкага, былі адхіленыя на падставе меркаваньня калегіі суддзяў пра нібыта відавочную вінаватасьць сп. Бяляцкага. Усё гэта прадэманстравала палітычную матываванасьць гэтага судовага рашэньня.

Абсерваторыя лічыць, што перасьлед, затрыманьне і асуджэньне сп. Алеся Бяляцкага зьяўляюцца судовым перасьледам праваабаронцы за законную праваабарончую дзейнасьць, абароненую ўсімі міжнароднымі стандартамі ў галіне правоў чалавека. Дадзеная крымінальная справа была сфабрыкаваная, каб запалохаць і прымусіць замаўчаць грамадзянскую супольнасьць Беларусі праз масавыя рэпрэсіі супраць усіх нязгодных з рэжымам, якія ўзмацніліся пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2011 году.

"За апошні год сітуацыя ў Беларусі зьмянілася ад дрэннай да яшчэ горшай. Гэты прысуд пасылае недвухсэнсоўны сігнал аб тым, што ўлады не маюць намеру спрыяць прагрэсу ў выкананьні іх абавязацельстваў па правах чалавека, – кажа прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн. – Гэта сумны дзень для Беларусі і правоў чалавека. Улады не пакідаюць аніякай прасторы для існаваньня няўрадавых праваабарончых арганізацыяў. Такім чынам, усе прынцыпы правоў чалавека ставяцца сёньня ў Беларусі пад пагрозу".

Абсерваторыя нагадвае, што іншыя сябры ПЦ "Вясна" таксама сутыкаліся з перасьледам на працягу апошніх тыдняў, у тым ліку намесьнік старшыні сп. Валянцін Стэфановіч. Акрамя гэтага, уступленьне сёньняшняга прысуду ў законную сілу прымушае ПЦ "Вясна" пакінуць свой цэнтральны офіс.

Крымінальная справа была заснаваная на інфармацыі, прадастаўленай беларускім уладам Міністэрствам юстыцыі Літвы і Генеральнай пракуратурай Польшчы адносна рахункаў, адкрытых сп. Бяляцкім у замежных банках дзеля дзейнасьці ПЦ "Вясна". Беларускія падатковыя ўлады памылкова расцанілі грошы на рахунках сп. Бяляцкага як ягоны асабісты прыбытак і абвінавацілі яго ва ўтойваньні сродкаў. Гэтыя грошы, якія былі перададзеныя арганізацыямі для фінансаваньня праваабарончай дзейнасьці, не былі выкарыстаныя ў якасьці асабістых сродкаў, але для фінансаваньня законнай дзейнасьці ПЦ "Вясна", такіх як маніторынг выбараў і дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

"Гэтае рашэньне зьяўляецца пародыяй на правасуддзе. Атрыманьне фінансаваньня для дзейнасьці ў галіне правоў чалавека зьяўляецца цалкам легітымным. Яно не мусіць крыміналізавацца, але падтрымлівацца", – кажа Джэральд Стэйброк, Генеральны сакратар OMCT.

Абсерваторыя цьвёрда асуджае прысуд сп. Бяляцкаму і заклікае беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць яго, бо затрыманьне праваабаронцы зьяўляецца адвольным, гарантаваць пры любых абставінах яго фізічную і псіхалагічную недатыкальнасьць, а таксама спыніць любыя формы перасьледу – у тым ліку на судовым узроўні – супраць праваабаронцаў у адпаведнасьці з Дэкларацыяй ААН аб праваабаронцах, Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і міжнароднымі дакументамі па правах чалавека, ратыфікаваных Беларусьсю.

*Парыж-Жэнева,*
*24 студзеня 2012 году*

## "Рашэньнем суда засмучаны..."

### Прэзідэнт Еўрапарламенту Марцін Шульц асудзіў прысуд Бяляцкаму

**Тэкст заявы Марціна Шульца ад 24 студзеня 2012 г.:**

**"Я засмучаны сёньняшнім рашэньнем Менскага гарадзкога суда адхіліць касацыйную скаргу, накіраваную супраць прысуда выдатнаму беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму – 4 з паловай гады турмы. Гэта яшчэ адзін сумны дзень у гісторыі беларускага правасуддзя. Еўрапейскі парламент лічыць, што абвінавачаньне ва ўхіленьні ад выплаты падаткаў было палітычна матываваным і беспадстаўным. Бяляцкі мусіць быць вызвалены безумоўна, разам з астатнімі 14 палітычнымі вязьнямі, уключна з двума былымі кандыдатамі ў прэзідэнты. Я засмучаны рашэньнем суда зачыніць офіс праваабарончага цэнтру "Вясна", лідарам якога зьяўляецца А. Бяляцкі.**

**Я таксама асуджаю рашэньне Вярхоўнага Суда Беларусі пакінуць у сіле сьмяротныя прысуды Уладзіславу Кавалёву і Дзьмітрыю Канавалаву, вынесеныя на падставе сумнеўных абвінавачаньняў ва ўчыненьні тэрарыстычнага акту ў менскім метро 11 красавіка. Сьмяротны прысуд хутка будзе прыведзены ў выкананьне, нягледзячы на тое, што міжнародныя праваабарончыя камісіі сьцьвярджаюць, што суд ня быў справядлівым і што справа магла быць сфабрыкаванай. Я заклікаю прэзідэнта А. Лукашэнку памілаваць гэтых двух людзей і ўвесьці мараторый на сьмяротнае пакараньне. Я таксама вітаю рашэньне Рады міністраў замежных справаў пашырыць абмежавальныя захады супраць беларускіх чыноўнікаў, якія маюць дачыненьне да парушэньняў правоў чалавека. Аднак, гэтыя санкцыі павінны ісьці далей і быць накіраванымі на фірмы, якія фінансуюць рэжым наўпрост, як было адзначана ў рэзалюцыях Еўрапейскага Парламенту."**

## Алег ВОЛЧАК:

# "На працэсе "не былі захаваныя нават элементарныя межы закону"

Алег Волчак зьвязвае сваё затрыманьне не з сустрэчамі, што маюць адбыцца ў яго, а непасрэдна з праваабарончай дзейнасьцю. Пра гэта ён заявіў журналістам 31 студзеня пасьля таго, як выйшаў з Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП), дзе правёў чацьвёра сутак паводле абвінавачаньня ў дробным хуліганстве. Нагадаем, былы сьледчы пракуратуры, кіраўнік грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву" (Кіеў) Алег Волчак быў затрыманы ў Менску 27 студзеня. На вуліцы да яго падышоў міліцыянер, папрасіў для праверкі дакументы і затрымаў. Алега Воўчака даставілі ў аддзяленьне міліцыі Цэнтральнага раёну, дзе склалі пратакол па артыкуле 17.1 КаАП РБ ("Дробнае хуліганства") і адправілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсьціна. 30 студзеня суд Цэнтральнага раёну Менску прызнаў сп. Волчака вінаватым у дробным хуліганстве. Сьведкамі на слуханьнях выступілі супрацоўнікі міліцыі, якія сьцьвярджалі, што праваабаронца "лаяўся матам і размахваў рукамі". Волчак абвінавачаньні адмаўляў, аднак суддзя Аляксандр Якунчыхін вынес абвінаваўчы прысуд.



Алег ВОЛЧАК.

Як расказаў праваабаронца пасьля таго, як выйшаў з ЦІП, спачатку яго зьмясьцілі ў камеру разам з асобамі без пэўнага месца жыхарства. "Там, вядома, былі жудасныя ўмовы: пабітае акно, праз якое ў камеру пранікае холад, увесь час гарыць лямпачка і цячэ вада з крана. Самае цяжкае выпрабаваньне – холад. У камеры было ня больш за 16 градусаў цяпла. Увесь час з крана цякла вада, і таму было вельмі праблематычна спаць. Холад і гэты бясконцы гук...", – паведаміў сп. Волчак.

Паводле словаў сп. Волчака, у цяперашні час міліцыя праводзіць аперацыю "Нелегал". Справы некаторых затрыманых цягнуцца вельмі доўга. Так, расейцы, якія абвясьцілі галадоўку, сядзяць на Акрэсьціна больш за 40 дзён.

Алег Волчак распавёў, што ў камеры, дзе ён знаходзіўся да адпраўкі ў суд, ён праводзіў "палітінфармацыі". "Мяне вельмі здзівіла, наколькі ў нас палітызаванае грамадзтва. Калі я сказаў бамжам, што я палітычны, то яны ў мяне адразу запыталіся: "А вы з АГП ці сацыял-дэмакрат?". Людзі вельмі дрэнна ставяцца да ўладаў, прычым, незалежна ад іхняга статусу".

Праваабаронца заявіў, што камеры ў ізалятары на вуліцы Акрэсьціна трэба тэрмінова рамантаваць. "На сьценах камеры назапашваецца бруд. Гэта антысанітарыя. Пабітыя вокны, скразьняк... Чаму нельга паставіць шклопакеты? У нас жа плануецца чэмпіянат па хакеі. У камеры ж могуць патрапіць нейкія заўзятары на падпітку. Рознае ж бывае. І вось тады яны ўбачаць, у якіх нечалавечых умовах трымаюць людзей. Гэта ж свінства. Спаць на падлозе без матрацаў – гэта наогул дзікунства. Там ва ўсіх адна задача – выжыць і выйсьці на волю. Трэба з гэтым нешта рабіць", – сказаў ён

Пры гэтым ён заявіў, што харчаваньне ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў палепшылася. Замест двух разоў зьняволеных цяпер кормяць тройчы на дзень, прычым, напрыклад, у абед даюць нават катлеты, "якія можна есьці", адзначыў праваабаронца.

Каментуючы меркаваньні некаторых інтэрнэт-рэсурсаў аб тым, што яго затрыманьне было зьвязанае з запланаванымі паездкай за мяжу для ўдзелу ў праваабарончым мерапрыемстве і сустрэчай з групай афіцэраў, Волчак адзначыў: сустрэчы з воінамі-"афганцамі" і былымі афіцэрамі сілавых структураў "на нейтральнай тэрыторыі" сапраўды плануюцца. "Але мы ня робім нічога супрацьзаконнага, мы ствараем грамадзкую арганізацыю", – дадаў ён. (Волчак, былы ўдзельнік баявых дзеяньняў у Афганістане, зьяўляецца сустаршынём аргкамітэту па стварэньні грамадзкага аб'яднаньня ветэранаў баявых дзеяньняў "Абаронцы Айчыны".)

Сваё затрыманьне сп. Волчак зьвязвае з тым, што праваабаронцы і, у прыватнасьці, арганізацыя "Прававая дапамога насельніцтву", якую ён узначальвае, "наблізіліся да палітычнай дзейнасьці". Гэта праяўляецца ў складаньні справаздачаў аб сітуацыі ў Беларусі, аналізе розных крымінальных працэсаў і ў іншых сферах, растлумачыў сп. Волчак.

Так, напрыклад, 23 студзеня "Прававая дапамога насельніцтву" прэзэнтавала ў Менску справаздачу па крымінальнай справе Алеся Бяляцкага – віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, асуджанага ў лістападзе 2011 году на 4,5 гады зьняволеньня за "ўтойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры".

Слуханьне сваёй адміністрацыйнай справы ў судзе юрыст Волчак расцаніў як "працэс, на якім не былі захаваныя нават элементарныя межы закону". "Затрымалі мяне паводле галаслоўнага абвінавачаньня, і суд нават не задаволіў мае хадайніцтвы аб азнаямленьні з пратаколамі", – заўважыў ён.

Праваабаронца мае намер падаваць у Менскі гарадзкі суд скаргу ў сувязі са сваім затрыманьнем і рашэньнем суда Цэнтральнага раёну.

## Лідзія АЎТУХОВІЧ:

# "Я малюся, каб Бог ня даў яму загінуць..."

***Насьцярожаны позірк, прыгожы твар, на якім адбіліся і страх, і жах, і пакуты. Адначасова ветлівая, але крышку разгубленая ўсьмешка. Так пачалося маё знаёмства з жанчынай складанага лёсу, з маці палітвязьня Мікалая Аўтуховіча Лідзіяй Юльянаўнай. Яна пачынае гаварыць – і плача. Спрабуе стрымацца, выбачаецца: "Не зьвяртайце ўвагі, гэта я ўсё пра сына думаю і вось часам не вытрымліваю". А потым зноў поўныя вочы сьлёз. Каб неяк пераключыць яе ўвагу на іншую тэму, распытваю пра яе самую, пра яе лёс.***



Лідзія АЎТУХОВІЧ.

– Я нарадзілася ў 1939 годзе, 17 траўня. Усё дзяцінства і маладосьць была Ліляй Ігнацік. Хаця па пашпарце я Лідзія, але ўсе свае чамусьці звалі мяне Ліляй. Тату свайго амаль не памятаю, бо была малая, калі яго забілі. А вінаваты ў яго сьмерці родны брат. Ён данёс немцам, што бацька носіць ежу партызанам. Вось тату і расстралялі. Потым, калі немцаў прагналі, татавага брата-здрадніка пасадзілі. Вельмі цяжкі быў час… Усім было цяжка… А тым, у каго толькі мама пасьля вайны засталася, – дык зусім гора. Але ў нас і мамы хутка не стала. Той самы мой дзядзька, з-за якога бацька загінуў, вярнуўся з турмы і нам адпомсьціў. Засёк маму сякерай, калі тая была на калгасным полі каля фермы. Ён і мяне хацеў забіць, але я ўцякла… Малая тады была. Толькі ведаю, што яго пасадзілі і ў турме ён памёр… Вось такі лёс – і ворагу не пажадаеш.

***– Але потым усё ж вы выйшлі замуж, жыцьцё неяк наладзілася?***

– Ды і тут як паглядзець. Усё было, здаецца, добра. 7 студзеня 1963 году, менавіта на Каляды, нарадзіўся Мікола. (Можа, гэта яму і дапамагае ў жыцьці, можа, таму і ратуе яго Бог ва ўсіх выпадках.) Усё было, як ува ўсіх – сын хадзіў у дзіцячы садок, я яшчэ нарадзіла двойню – дзяўчат. Але так атрымалася, што мне самой зрабілі складаную аперацыю, дзяўчаткі захварэлі, адна памерла. Засталася Рыта. І дзяцей выхоўваць мне адной давялося.

***– А чым займаўся сын? Што яму падабалася?***

– Ён любіў рабіць колерамузыку. Нейкія дэталькі ўсё зьбіраў і майстраваў. Аніякіх праблемаў з ім не было, настаўнікі хвалілі і за розум, і за добрыя паводзіны. І ён, і Рыта заўсёды былі спакойныя, нікуды асабліва не хадзілі. Каб я не хвалявалася, Мікола да ночы ніколі нідзе не затрымліваўся. І ніякіх капрызаў. Толькі аднойчы папрасіў набыць яму ровар. Дык толькі два дні на ім і пакатаўся, бо скралі на вуліцы. А так… Было як ува ўсіх – вучыўся ў ПТВ у Бераставіцы, потым забралі ў войска. Як адслужыў – застаўся прапаршчыкам. Вось тут і пачалося…

Афганістан. Два гады пад кулямі. Я дзень і ноч плакала. Малілася штодня, і Бог ня даў яму загінуць. Коля нават у адпачынак прыязджаў. Я так радавалася, што яму далі пару вольных тыдняў, і толькі потым выпадкова даведалася, што ён паранены быў, таму і дазволілі дамоў з'езьдзіць. Але мне ён нічога тады не сказаў.

***– Калі ваш сын стаў бізнесменам, то ад сэрца крыху адлягло?***

– Спачатку, калі ён пачынаў, былі цяжкасьці, але паступова ў яго ўжо і нейкі аўтапарк утварыўся. Людзі былі задаволеныя, што ў горадзе зьявіліся маршруткі, што яны былі танныя. Да Міколы пачалі зьвяртацца з рознымі просьбамі, і ён нікому не адмаўляў. Прасілі грошай хто на што – на аперацыю, на будаўніцтва храма, у дзіцячы дом, на лячэньне… Але чым вышэй чалавек падымаецца, ты больш яму зайздросьцяць.

***– Вы думаеце, што з-за нядобразычліўцаў і адбыўся першы арышт?***

– Так. Я была ў санаторыі і вярнулася ў той дзень, калі Міколу выклікалі на допыт у Гародню і ўжо там надзелі кайданкі. Толькі на наступны дзень патэлефанавалі і сказалі, што Коля арыштаваны. Для мяне гэта быў шок. Ніхто ж ня ведаў нават, за што яго арыштавалі. А ўжо як я гэта перажыла, і сама не ведаю. Пра ягоную галадоўку даведалася з газетаў. Далі яму тады тры з паловай гады, а адседзеў два. Выйшаў такі схуднелы, што без жаху немагчыма было на яго глядзець. Але я так радавалася! Думала, што хопіць ужо і на яго, і на маю долю выпрабаваньняў. Што цяпер жыцьцё ўсё-такі наладзіцца. Дык не, зноў пасадзілі. Нават ня ведаю, як вытрымліваю ўсё гэта і за што і мне, і яму такі лёс наканаваны.

***– Ваўкавыск – невялікі горад. Вас пазнаюць на вуліцах? Можа, баяцца з вамі кантактаваць як з маці "палітычнага"?***

– Наадварот, людзі вітаюцца, кажуць словы падтрымкі. Да Міколы ў горадзе вельмі добра ставяцца, бо ён сапраўды шмат каму дапамагаў. Людзі цяпер усё разумеюць, ведаюць, што ён ніякі не крымінальнік, ужо нікому нічога ня трэба тлумачыць. Цяпер я толькі малюся, каб Бог ня даў яму загінуць. Спадзяюся, што дачакаюся, калі Мікола вернецца дадому.

***– Вядома, дачакаецеся. Не можа быць па жыцьці толькі адна чорная паласа.***

– Я вельмі на гэта спадзяюся. Але ад перажываньняў я спачатку страціла зрок, потым і іншыя хваробы прыбіліся. Цяпер вось цукровы дыябет пачаўся. Набываю, вядома, лекі, хоць у мяне і малая пенсія. Ды яшчэ па 20 адсоткаў з кожнай пенсіі ўтрымліваюць. Калі ў Міколы ўсё забралі на аплату штрафаў, дык прыйшлі да мяне маёмасьць апісваць. А што апісваць? Старую шафу, якую яшчэ мы з мужам набывалі, калі дзеці былі маленькія? Але гэта ўсё перажыву – хай і шафу забяруць, і што хочуць. А вось тое, што з сынам адбываецца, як перажыць? Як можна ў наш час так зьдзекавацца з чалавека? За што?! Вось зараз быў Новы год, Раство. Людзі вясёлыя, гуляюць, радуюцца, а мой сын у турме. Іду і дарогі не бачу ад сьлёз… Усё думаю: "Напэўна, нехта хоча, каб я ці Мікола памерлі. Як ён там? Што там адбываецца?" Толькі адно я ведаю дакладна і хачу сказаць усім, хто зараз і Колю цкуе, і такіх, як ён. Помніце, на чужым няшчасьці свайго шчасьця не пабудуеш. Мой сын – герой! Ён прайшоў праз цяжкія выпрабаваньні і ўсё вытрывае. Але кожны ўсё роўна будзе адказваць за тое, што ўчыніў, і не важна, выконваў ён нейкае даручэньне ці сам уласна дадумаўся чалавеку лёс руйнаваць.

*Любоў ЛУНЁВА,*
*«Народная воля»*

# Алесь Бяляцкі намінаваны на Нобелеўскую прэмію

У падтрымку прысуджэньня Нобелеўскай прэміі міру беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму таксама выступілі 41 парламентарый Рады Еўропы.

"Мы, парламентарыі краінаўудзельніцаў Рады Еўропы, рашуча падтрымліваем ідэю ўзнагароджаньня Нобелеўскай прэміяй міру выбітнага беларускага дзеяча і праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Алесь Бяляцкі, асуджаны да 4,5 гадоў зьняволеньня, ніколі ня быў палітыкам. Адзіная яго "віна" ў тым, што, будучы чулым чалавекам, ён знаходзіўся побач з ахвярамі антыдэмакратычнага рэжыму, дапамагаў ім і клапаціўся пра іх сем'і. Мы патрабуем яго вызваленьня. Народ Свабоднай Еўропы ніколі не пакіне грамадзянаў Беларусі, якія маюць поўнае права карыстацца такімі ж правамі, як мы," – гаворыцца ў пісьмовай дэкларацыі ў падтрымку вылучэньня.

Польскія парламентарыі таксама падтрымалі кандыдатуру Алеся Бяляцкага. Подпісы за вылучэньне праваабаронцы на прэмію зьбіраліся ў польскім парламенце прадстаўнікамі двух найбуйнейшых палітычных польскіх партыяў: кіруючай "Грамадзянскай платформы" і апазіцыйнай "Права і справядлівасьці".

Як адзначыў каардынатар працы Томаш Пісуля з фонду "Вольнасьць і дэмакратыя", па гэтым пытаньні дэпутаты мелі супольнае меркаваньне: "Факт, што мы сабралі некалькі сотняў подпісаў, якія падтрымліваюць кандыдатуру Алеся Бяляцкага, тое, што подпісы нам удалося сабраць сярод дэпутатаў Савету Еўропы, паказвае, што мы адназначна падтрымліваем беларускіх дэмакратаў і выступаем за вызваленьне ўсіх палітвязьняў. Я задаволены, што PO і PiS вырашылі дзейнічаць у гэтай справе разам.

Пяць дэпутатаў Вярхоўнай Рады Украіны накіравалі ў Осла, дзе месьціцца Нобелеўскі камітэт міру, намінацыйны ліст на вылучэньне беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію. Пра гэта паведаміў былы амбасадар Украіны ў Беларусі Раман Бяссьмертны: "Гэта – дзейныя дэпутаты Віктар Марчук, Леся Грыгаровіч, Мустафа Джамілёў, Анатоль Мацьвіенка і Яраслаў Кэндзер. Яны ўжо зьвязваліся з Осла і ім паведамілі, што іх лісты дайшлі па прызначэньні. Што датычыцца маёй думкі, то я далучаюся да сваіх былых калегаў-парламентарыяў. Я таксама ўпэўнены, што гэты чалавек заслугоўвае прысуджэньня Нобелеўскай прэміі. І я хачу пажадаць усяму беларускаму народу, каб імя Бяляцкага, як барацьбіта за мір, як чалавека, які адстойваў годнасьць беларускага народу, заўжды было такім павадыром у цяперашніх складаных умовах".

Шырын Эбадзі вылучыла Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру. Пра рашэньне Шырын Эбадзі вылучыць Бяляцкага стала вядома з крыніцаў у Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека. Шырын Эбадзі – іранская адвакатка, якая атрымала ўзнагароду ў 2003 годзе. Эбадзі паведаміла, што дасылае свой намінацыйны ліст у Осла экспрэс-поштай.

Дагэтуль грамадзяне Беларусі Нобелеўскай прэміі не атрымлівалі.

# Прававое бясчынства

(Пачатак на стар. 1)

Менскі гарадзкі суд пацьвердзіў прысуд аб зьняволеньні беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Менгарсуд таксама адхіліў хадайніцтва аб зьмене меры стрыманьня праваабаронцу Алесю Бяляцкаму.

Аргумент суда, што Алесь Бяляцкі сам не даказаў сваю невінаватасьць, паказвае: у Беларусі наогул адсутнічае прэзумпцыя невінаватасьці. Пра гэта заявіў праваабаронца Уладзімір Лабковіч пасьля вынясеньня Менгарсудом рашэньня па касацыйнай скарзе Бяляцкага 24 студзеня.

"Фактычна пракурор Кірыл Чубкавец заявіў, што віна Бяляцкага даказаная ў судзе першай інстанцыі, таму касацыйная скарга падлягае адхіленьню. Ніякіх фактаў ён не прывёў і ня мог прывесьці, таму што доказаў няма. Аргумент суда, што Бяляцкі сам не даказаў сваю невінаватасьць, адлюстроўвае, што ў Беларусі наогул адсутнічае прэзумпцыя невінаватасьці. Гэта, дарэчы, паказвае агульную дэградацыю пракуратуры, суда і сьледзтва. Ім ня трэба нічога даказваць. Дастаткова, каб была каманда і знайшліся тры суддзі, якія б яе выканалі".

"Адвакат будзе абскарджваць гэты прысуд у наглядным парадку выключна для таго, каб мець магчымасьці і перспектывы міжнароднай юрыдычнай рэакцыі, не шукаючы больш праўды ў тым абрадзе, які ў Беларусі чамусьці называецца судом", – адзначыў сп. Лабковіч.

"Тое, што адбылося ў судзе – абсалютнае прававое бясчынства, выключна палітычная расправа над вядомым беларускім праваабаронцам, – падкрэсьліў ён. – Дакументы, якія былі прадстаўленыя ў суд, павінны былі хоць бы мінімальна, але паўплываць на зьмяненьне прысуду. Гэта выключна палітычная расправа над вядомым беларускім праваабаронцам".

24 лістапада мінулага году Першамайскі суд г. Менску прысудзіў старшыню праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага да 4,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці нібыта за ўхіленьне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры (ч. 2 арт.243 КК). Згодна з рашэньнем суда, А. Бяляцкі таксама павінен выплаціць у якасьці кампенсацыі нанесенай шкоды Br721 млн. (каля $86 тыс) і Br36 млн. дзяржаўнай пошліны.

18 студзеня жонка праваабаронцы Натальля Пінчук перавяла на рахунак упраўленьня юстыцыі Менгарвыканкаму для суда Першамайскага раёну сабраныя грамадзянамі 757 млн. 526 тыс. 717 беларускіх рублёў ($90 тыс.).

Як паведамлялася, падставай для крымінальнага перасьледу А. Бяляцкага стала інфармацыя аб ягоных замежных банкаўскіх рахунках, перададзеная ў Менск чыноўнікамі Літвы і Польшчы ў межах двухбаковых пагадненьняў аб прававой дапамозе. Як патлумачыў у судзе А. Бяляцкі, грошы, якія паступалі на ягоны рахунак, выкарыстоўваліся ў якасьці дапамогі для праваабарончай дзейнасьці.

Кіраўніцтва Еўразьвязу, ЗША і міжнародных праваабарончых арганізацыяў лічаць вынесены яму прысуд палітычна матываваным і патрабуюць ад уладаў Беларусі безумоўнага вызваленьня праваабаронцы.

# "Задача Лукашэнкі – не выпусьціць палітвязьняў жывымі"

Ірына Халіп 25 студзеня склікала экстранную прэс-канферэнцыю на наступны дзень пасьля спатканьня з мужам. Мала хто бачыў Ірыну такой. У жонкі былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саньнікава, які зараз адбывае пакараньне ў калоніі "Віцьба-3", часам былі поўныя вочы сьлёз. І не сьлёз радасьці ад доўгачаканага спатканьня…

Тры месяцы да гэтага пра Андрэя Саньнікава не было ніякай інфармацыі. Адвакатаў і сваякоў да яго не дапускалі, лісты не даходзілі. А калі дапусьцілі, то высьветлілася, што Саньнікаў выглядае так, нібыта прайшоў праз сталінскія лагеры. І што ён яшчэ ў сьнежні падпісаў прашэньне аб памілаваньні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

Ірына лічыць, што прашэньне з Андрэя "выбілі" сапраўднымі катаваньнямі. Яна сьцьвярджае, што на такі крок ён мог пайсьці з-за пагрозаў сям'і. "Андрэй разумее, у якім цяжкім стане я знаходжуся. Улічваючы, што па прысудзе для мяне ўведзена "каменданцкая гадзіна" і я абавязаная адчыняць дзьверы позьнім вечарам, калі яны прыходзяць з праверкай са словамі: "Адчыняйце, міліцыя!". Так да мяне можа прыйсьці хто заўгодна, і я не змагу не адчыніць дзьверы. Андрэй гатовы памерці сам, але ён не дазволіць прычыніць шкоду нам з Данікам", – сказала жонка палітвязьня.

Самыя цяжкія пакуты – гэта пагроза жыцьцю тваіх блізкіх. А яшчэ месяцы ў "адзіночцы", без лістоў, без сустрэчаў з адвакатам, без якіх-небудзь вестак з волі, неаднаразовыя, па некалькі тыдняў, "транзіты" з калоніі ў калонію, з хворымі на сухоты, з правакатарамі…

Больш за ўсё Ірыну ўсхвалявала тое, што падчас прэс-канферэнцыі 23 сьнежня Аляксандр Лукашэнка рабіў выгляд, што ня ведае пра прашэньне Саньнікава. У той жа час, па яе зьвестках, Саньнікаў вымушаны быў падпісаць прашэньне яшчэ ў канцы лістапада. "Магчыма, Лукашэнку зусім не былі патрэбныя прашэньні аб памілаваньні. Гэта адмазка для журналістаў, якія яму задаюць пытаньні. У яго іншая задача", – кажа Ірына. Хаця сярод іншых яна выказала і версію, што кіраўнік краіны, магчыма, прагэтае прашэньне нічога ня ведаў, бо больш не кантралюе сітуацыю.




Спатканьне з Андрэем Саньнікавым у калоніі "Віцьба-3" доўжылася дзьве гадзіны з відэакантролем і размовай праз шкло. Ірына распавяла, што за тры апошнія месяцы Андрэй так зьмяніўся, што "стаў падобны на чалавека, за якім дзесяць гадоў сталінскіх лагераў".

"Ала Уладзіміраўна, маці Андрэя, плакала ўсе чатыры гадзіны па дарозе дадому, бо першай фразай сына былі словы: "Я не спадзяваўся, што яшчэ калі-небудзь цябе ўбачу", – расказала Ірына, сама ледзь стрымліваючы сьлёзы.

"Андрэй ня мог распавесьці пра тое, што з ім адбылося за тры апошнія месяцы. Ён толькі змог перадаць: "Мая адсідка скончылася яшчэ ў верасьні. Потым пачаліся катаваньні." Андрэй даў мне зразумець, што яшчэ ў Магілёўскай турме, куды яго прывезьлі 16 лістапада, яму пагражалі забойствам мяне і нашага чатырохгадовага сына. Калі гэтым яшчэ ў турме КДБ не грэбаваў сам спадар Зайцаў, то ці варта дзівіцца, што падначаленыя выкарыстоўвалі ягоныя метады", – сказала Ірына Халіп.

Нагадаем, што менавіта ў верасьні палітвязьня накіравалі этапам з Наваполацкай калоніі ў Віцебскую, адтуль – у Магілёўскую, потым – у калонію "Віцьба-3". Увесь гэты час Бог ведае, што з ім адбывалася. Але відавочна, што ён падвяргаўся катаваньням… Праваабаронцы нават гэтыя бясконцыя "этапы" лічаць катаваньнямі, бо доўжацца яны не дзень і не два, а іншы раз тыднямі.

"А цяпер давайце падумаем, чаму ж Лукашэнка, атрымаўшы гэтак жаданую паперку, не размахваў ёю на прэс-канферэнцыі ў сьнежні, калі казаў, што палітвязьні ня хочуць пісаць просьбы і таму сядзяць. Яны ня хочуць пісаць, але з іх выбіваюць гэтыя просьбы пад катаваньнямі і пагрозамі. Тым больш, што, у адрозненьне ад усіх астатніх, у Андрэя маленькае дзіця і жонка, асуджаная з адтэрміноўкай. Відавочна, што Лукашэнку зусім не былі патрэбныя прашэньні аб памілаваньні. Гэта "адмазка" для журналістаў, якія яму задаюць пытаньні. У яго іншая задача. Ягоная задача – не выпусьціць палітвязьняў жывымі. Калі б Лукашэнку патрэбныя былі паперкі з іхнімі подпісамі, няўжо ён бы не скарыстаўся паперкай з подпісам ягонага самага моцнага суперніка? Няўжо ён прамаўчаў бы аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў канцы сьнежня?

Але ён прамаўчаў. І гэта лішні раз даказвае, што ягоная сапраўдная задача – фізічнае зьнішчэньне сваіх супернікаў. З гэтай жа мэтай у магілёўскую турму, далей ад магчымых сьведак, адправілі і Мікалая Статкевіча. Таму і не адпускаюць хворага Зьмітра Бандарэнку.

Перад разьвітаньнем Андрэй прыклаў да шкла паперку, дзе было напісана: "Гаворка ідзе аб выратаваньні жыцьця. У любы момант мяне могуць забіць", – распавяла Ірына Халіп.

"Спадзяюся, што ўбачымся яшчэ хоць раз", – сказаў Саньнікаў на разьвітаньне жонцы і маці. Але пасьля апошняй сустрэчы з мужам у Ірыны Халіп такой упэўненасьці няма. Наступнае спатканьне, згодна з правіламі, павінна адбыцца толькі праз чатыры месяцы.

Прыкладна праз тры гадзіны пасьля прэс-канферэнцыі Міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што прашэньне аб памілаваньні Андрэй Саньнікаў падаў 23 сьнежня (менавіта ў той дзень, калі была прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі), і толькі 23 студзеня 2012 году яно разам з падрыхтаванымі матэрыяламі трапіла з калоніі ў аддзел па пытаньнях грамадзянства і памілаваньня Адміністрацыі прэзідэнта.

# Мікалай Аўтуховіч пераведзены ў турму да канца тэрміну

17 студзеня ў Івацэвіцкай калоніі №5 адбыўся суд над Мікалаем Аўтуховічам, у выніку якога асуджаны прадпрымальнік быў прызнаны вінаватым у злосным парушэньні рэжыму. На гэтай падставе суд Івацэвіцкага раёну вынес прысуд аб зьмяненьні меры пакараньня вязьню: два гады і тры месяцы, якія засталіся да канца адбыцьця пакараньня, Аўтуховіч павінен правесьці ў турме.

На імя галоўнага рэдактара “Новага часу” прыйшоў ліст ад палітзьняволенага Мікалая Аўтуховіча. Ён датаваны 19 студзеня, а поштай дастаўлены 23 студзеня. Ужо гэта ўспрымаецца як факт у чымсьці нават суцяшальны. Значыць, Мікалай жывы і адносна здаровы пасьля тых цяжкіх выпрабаваньняў, што абрынула на яго адміністрацыя калоніі апошнім часам. Адмянілі спатканьне з жонкай, на месяц пераявілі ў памяшканьне камернага тыпу (ПКТ), урэшце асудзілі яшчэ раз і зьмянілі ўмовы ўтрыманьня на больш жорсткія – з калоніі ў турму. Вязень сумленьня не зламаўся, трымаецца з гонарам.


Мікалай АЎТУХОВІЧ.

У лісьце Мікалай Аўтуховіч дзякуе ўсім за падтрымку, а рэдакцыю за газету, якую просіць пераадрасаваць з наступнага нумару ў гарадзенскую турму. "21 студзеня, – паведамляе ён, – этап, і дзесьці праз тыдзень павінен быць на месцы".

Тое, што газета даходзіла да Мікалая ў калонію, таксама добрая навіна, асабліва з улікам таго, што з дастаўкай газет (асабліва незалежных), гэтак жа, як і лістоў, палітвязьням у месцы іх зьняволеньня назіраецца шмат незразумелага. Далёка не ўсе палітвязьні і далёка не заўсёды іх атрымліваюць, нярэдка ўзьнікаюць перапынкі па часе, многія нумары газеты адміністрацыя вяртае ў рэдакцыю.

На "Новы час", у прыватнасьці, падпісаныя ўсе палітвязьні, аднак рэдакцыя атрымала зварот усіх нумароў са шклоўскай калоніі №7, адрасаваных Мікалаю Статкевічу, вярталіся нумары, што дасылаліся Яўгену Васьковічу ў магілёўскую турму №4, Арцёму Пракапенку зноў жа ў шклоўскую калонію №7, Зьмітру Дашкевічу ў калонію №9 у Горках.

Нагадаем, што ў траўні 2010 году Мікалай Аўтуховіч рашэньнем Вярхоўнага суда быў асуджаны да пяці гадоў і двух месяцаў зьняволеньня з адбываньнем пакараньня ў калоніі строгага рэжыму за перавозку і захоўваньне пяці патронаў да паляўнічай вінтоўкі. У канцы месяца Мікалай Аўтуховіч быў пераведзены ў турму №1 Гародні.

# З карцэра кінулі ў "адзіночку"

**12 студзеня ў шклоўскай калоніі адбыўся суд над Мікалаем Статкевічам. Суддзя шклоўскага суда Віталь Волкаў задаволіў прадстаўленьне адміністрацыі калоніі аб пераводзе Мікалая Статкевіча на турэмны рэжым на тры гады як злоснага парушальніка рэжыму. У сьнежні ён быў зьмешчаны ў карцэр за тое, што ў ягоных рэчах знайшлі непазначаныя ў сьпісе насоўкі, а потым вязьня пакаралі яшчэ тройчы за тое, што ў карцэры ў яго не аказалася індывідуальнай таблічкі з прозьвішчам. Сапраўднай жа прычынай ціску на экс-кандыдата можа зьяўляцца адмова пісаць прашэньне аб памілаваньні на імя А. Лукашэнкі. Адразу пасьля судовага рашэньня Мікалай Статкевіч быў пераведзены з шклоўскай калоніі ў магілёўскую турму і там адразу зьмешчаны ў карцэр за парушэньні, нібыта ўчыненыя яшчэ ў калоніі.**

**Пасьля адбыцьця карцэру палітвязень мусіў вярнуцца ў турэмную камеру, але, як сьцьвярджае Марына Адамовіч, апынуўся ў камеры-адзіночцы ў будынку сьледчага ізалятару, які знаходзіцца за адным плотам з турмой. Марына Адамовіч мае сваю версію адносна таго, чаму яе мужа Мікалая Статкевіча пасьля карцэру не вярнулі ў турму, а накіравалі ў адзіночку ў сьледчым ізалятары: "Бывалыя людзі тлумачаць гэта вельмі проста: што зьмясьцілі ў ізалятар, каб не было як камунікавацца. Бо ў турме гэта больш наладжана, чым у ізалятары. Адтуль дакладна цыдулку не прышлеш".**

**Нагадаем, у траўні 2011 году Мікалай Статкевіч быў асуджаны на 6 гадоў узмоцненага рэжыму, атрымаў самы вялікі тэрмін за ўдзел у акцыі пратэсту 19 сьнежня 2010 году.**

# Праваабаронцы занепакоеныя фактамі ціску на палітвязьняў

## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна"

Праваабарончы цэнтр "Вясна" катэгарычна пратэстуе супраць катаваньняў, пагрозаў, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўзьдзеяньня на палітвязьняў.

Асаблівую заклапочанасьць выклікае заява жонкі экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саньнікава – Ірыны Халіп аб тым, што жыцьцё зьняволенага палітыка знаходзіцца пад пагрозай, у дачыненьні да яго ўжываюцца катаваньні і бесчалавечнае абыходжаньне. Мы ўспрымаем нядопуск адвакатаў да Андрэя Саньнікава, які меў месца да апошняга часу, як прамое пацьверджаньне заявы, зробленай жонкай палітвязьня.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" з разуменьнем ставіцца да напісаньня палітычнымі вязьнямі заяваў аб памілаваньні, тым больш калі яны напісаныя пад пагрозай ужываньня катаваньняў у дачыньнені да іх саміх ці іх сем’яў. Мы падтрымліваем любыя захады, скіраваныя на найхутчэйшае іх вызваленьне.

Як фактар дадатковага ціску на палітвязьняў мы расцэньваем беспадстаўную і незаконную зьмену рэжыму адбыцьця пакараньня Мікалаю Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу і Яўгену Васьковічу.

ПЦ "Вясна" патрабуе неадкладнага вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў і пакараньня вінаватых у грубым парушэньні іх правоў, ужываньні катаваньняў і незаконнай зьмене рэжыму адбыцьця пакараньня.

Мы заклікаем міжнародныя арганізацыі і ўрады дэмакратычных краінаў ставіць абавязковай умовай аднаўленьня любых кантактаў з афіцыйнымі асобамі Беларусі неадкладнае вызваленьне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зьняволеных.

*Менск, 25 студзеня 2012 г.*

# Сяргея Каваленку ў СІЗА кормяць гвалтам

**З 20 сьнежня 2011 г. Сяргей Каваленка трымае галадоўку пратэсту...**


Фота belapan.com
Сяргей КАВАЛЕНКА ў судзе.

9 студзеня зьмешчанага ў СІЗА віцебскага актывіста наведаў адвакат. Ён распавёў жонцы Сяргея Каваленкі, што той вельмі схуднеў, але галадоўку спыняць ня хоча. Зьняволенага штодня аглядаюць медыкі, якія ўводзяць яму глюкозу для падтрыманьня.

Жонка актывіста Алена Каваленка ўражаная тым, што Сяргея перавялі ў адзіночную камеру: "Я ня ведаю, навошта гэта зрабілі. Відавочна, гэта ізаляцыя. Магчыма, каб ён не размаўляў з суседзямі па камеры на палітычныя тэмы, і каб яго галадоўка пратэсту не стала прыкладам для іншых."

12 студзеня ў Першамайскім райсудзе Віцебску завяршыўся разгляд адміністрацыйнай справы актывіста, якога прызналі вінаватым у хуліганстве. Суддзя Вольга Іванова аштрафавала Сяргея Каваленку за нібыта нецэнзурную лаянку на адрас супрацоўнікаў інспекцыі па выкананьні пакараньняў. Сваю невінаватасьць ён імкнуўся давесьці падчас чатырох судовых паседжаньняў, але – безвынікова.

Больш за месяц ішло разьбіральніцтва па яго справе. Падсумоўваючы вынікі, ягоны адвакат прасіў суд спыніць справу, бо на працэсе не было прадстаўлена відавочных доказаў вінаватасьці яго падабароннага, а сьведчаньні боку абвінавачаньня разыходзіліся. Тым ня менш, суддзя прызнала віцебскага актывіста вінаватым і аштрафавала яго на чатыры базавыя велічыні (140 тысячаў рублёў). Як Сяргей Каваленка будзе выплачваць штраф – гэта пытаньне, бо ўжо больш як тры тыдні ён знаходзіцца ў сьледчым ізалятары.

24 студзеня сьледчыя дзеяньні па справе віцебскага сябра КХП БНФ былі скончаныя. Пра гэта жонцы Алене Каваленка паведаміў адвакат зьняволенага ў СІЗА актывіста, які з 19 сьнежня трымае галадоўку пратэсту супраць несправядлівага, на яго меркаваньне, абвінавачаньня. Цяпер крымінальную справу перададуць у пракуратуру Першамайскага раёну.

Тым часам актывіст па-ранейшаму знаходзіцца ў СІЗА, раз на суткі яго прымусова кормяць праз зонд, але стан ягонага здароўя дужа непакоіць родных.

"Ніякага адказу пра зьмену меры стрыманьня – каб Сяргея выпусьцілі пад грашовы заклад – мы не атрымалі. З абласнога сьледчага камітэту нам толькі напісалі, што перадаюць нашую заяву ў Першамайскі райаддзел. У шпіталь мужа пераводзіць таксама адмаўляюцца, кажуць, што ў гэтым няма пільнай патрэбы", – распавяла Алена Каваленка.

# "Вясна" патрабуе неадкладнага вызваленьня Каваленкі

## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна"

Праваабарончы цэнтр "Вясна" заклікае ўлады Беларусі неадкладна спыніць палітычны перасьлед актывіста партыі КХП-БНФ Сяргея Каваленкі.

19 сьнежня 2011 г. у Віцебску ў сувязі з узбуджэньнем крымінальнай справы паводле арт. 415 КК Рэспублікі Беларусь (ухіленьне ад адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі) быў затрыманы і ўзяты пад варту ў СІЗА актывіст партыі КХП-БНФ Сяргей Каваленка. На дадзены момант ён утрымліваецца ў адзіночнай камеры СІЗА г. Віцебску і 23-ці дзень трымае галадоўку пратэсту. Яго жыцьцю і здароўю пагражае сур'ёзная небясьпека.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычнікага раёну г. Віцебску асудзіў Сяргея Каваленку да трох гадоў абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Крымінальны перасьлед актывіста пачаўся пасьля таго, як 7 студзеня 2010 г. ён на вачах у сотняў мінакоў вывесіў на 40-метровай вышыні бел-чырвона-белы сьцяг, здолеўшы залезьці па зборнай металічнай канструкцыі на самую верхавіну галоўнай навагодняй елкі ў Віцебску. Сяргей Каваленка абвінавачаны паводле ч. 1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак) і ч. 2 арт. 363 (супраціў работніку праваахоўных органаў пры выкананьні ім службовых абавязкаў).

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыў і лічыць, што публічная дэманстрацыя і вывешваньне Каваленкам нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга ні ў якім выпадку ня можа кваліфікавацца як хуліганскія дзеяньні, паколькі яны ня носяць характару асаблівага цынізму і яўнай непавагі да грамадзтва і ня мелі гэтага на мэце.

Дзеяньні Каваленкі зьяўляюцца грамадзка-палітычнай акцыяй, зьдзейсьненай у дадзенай форме, і не былі скіраваныя на прычыненьне шкоды грамадзкаму парадку ці праяву непавагі да грамадзтва.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" расцэньвае паўторнае прыцягненьне Сяргея Каваленкі да крымінальнай адказнасьці за нібыта ўхіленьне ад адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі як працяг палітычных рэпрэсіяў у дачыненьні да яго і спробу далейшай ізаляцыі актывіста апазіцыйнай партыі.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць крымінальную справу і забясьпечыць яму належную і неадкладную медыцынскую дапамогу.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" нагадвае прадстаўнікам адміністрацыі СІЗА, кіраўніцтву МУС Беларусі, што адказнасьць за жыцьцё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам кладзецца на іх.

*Менск, 11 студзеня 2012 г.*

# Рашэньне зьяўляецца незаконным

## Валянцін Стэфановіч просіць Менскі гарадзкі суд адмяніць рашэньне суда Партызанскага раёну

Намесьнік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч 19 студзеня накіраваў у Менскі гарадзкі суд касацыйную скаргу на прысуд суда Партызанскага раёну. Праваабаронца дамагаецца адмены судовага рашэньня пра спагнаньне падаходнага падатку. Рашэньне па грамадзянскім зыску падатковай інспекцыі Партызанскага раёну пра спагнаньне з яго падаходнага падатку, якое 16 сьнежня 2011 году вынесла суддзя Вераніка Абрамовіч, праваабаронца лічыць неабгрунтаваным і незаконным, што ў адпаведнасьці з пунктамі 1 і 2 артыкулу 401 Грамадзянска-працэсуальнага кодэксу зьяўляецца падставай для яго адмены ў касацыйным парадку.

У скарзе ў Менгарсуд Валянцін Стэфановіч указвае шэраг падставаў для адмены рашэньня суда Партызанскага раёну. "У вынесеным рашэньні суд прыходзіць да высновы аб тым, што грашовыя сродкі, атрыманыя мной на разліковы рахунак у банку АО SEB Літоўскай Рэспублікі ад крыніцаў за межамі Рэспублікі Беларусь у 2009, 2010 гг., падлягаюць падаткаабкладаньню. Аднак пры гэтым судом не былі ўлічаныя ўсе факты, якія ўваходзяць у прадмет даказваньня па дадзенай справе", – адзначае праваабаронца. Пры гэтым ён акцэнтуе ўвагу на двух пунктах, выкладзеных у матывіровачнай частцы суддзёй Веранікай Абрамовіч.

*Па-першае*, ён паведамляе ў касацыйную інстанцыю пра наяўнасьць афіцыйнага дакументу з Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі, які па яго хадайніцтве быў далучаны да матэрыялаў справы: "Копія дадзенага дакументу заверана пячаткай амбасады Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, падпісана паўнамоцным амбасадарам гэтай дзяржавы. У адпаведнасьці з дадзеным дакументам, прадстаўленая Мінюстам Літвы ў Мінюст Беларусі інфармацыя [пра рух грашовых сродкаў, атрыманых на разліковы рахунак у банку Літоўскай Рэспублікі ад крыніцаў за межамі Рэспублікі Беларусь у 2009, 2010 гг.] не адпавядае рэчаіснасьці.

У адпаведнасці з арт. 193 ГПК гэты дакумент зьяўляецца афіцыйным, паколькі быў выдадзены дзяржаўным органам (Міністэрствам юстыцыі Літвы) у межах яго кампетэнцыі. Пазоўнікам не былі абвергнутыя зьвесткі, якія зьмяшчаюцца ў дадзеным дакуменце, у сувязі з чым зьмест дадзенага афіцыйнага дакументу зьяўляецца праўдзівым (арт. 193 ГПК)".

Падчас судовага працэсу Валянцін Стэфановіч хадайнічаў таксама, каб суд з мэтай збору доказаў па справе зрабіў пісьмовы запыт у Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі для атрыманьня тлумачэньняў наконт таго, у якой канкрэтна частцы прадстаўленая дзяржорганам інфармацыя пра рух сродкаў на банкаўскіх рахунках не адпавядае рэчаіснасьці. Прадстаўнікі падатковай інспекцыі таксама не пярэчылі супраць заяўленага ім хадайніцтва.

"Аднак суд сваім пісьмовым матываваным вызначэньнем адмовіў у задавальненьні заяўленага хадайніцтва, паказаўшы, што дасьць ацэнку гэтаму дакументу пры высьненьні рашэньня па справе. Пры гэтым у вынесеным судом рашэньні гэтаму доказу адзнака дадзена не была. Такім чынам, суд ухіліўся ад дасьледаваньня і ацэнкі дадзенага доказу, які меў істотнае значэньне для правільнага, ўсебаковага разгляду справы і не прыняў мераў для аб'ектыўнага дасьледаваньня ўсіх фактаў, якія ўваходзяць у прадмет даказваньня па справе.

У той жа час у адпаведнасьці з ч.1 арт. 241 ГПК Рэспублікі Беларусь суд ацэньвае доказы паводле свайго унутранага пераканаСньня, заснаванага на ўсебаковым, поўным і аб'ектыўным дасьледаваньні ў судовым паседжаньні ўсіх фактаў, якія ўваходзяць у прадмет даказваньня, кіруючыся пры гэтым толькі законам. Такім чынам, суд не ўлічыў усе факты, якія ўваходзяць у прадмет даказваньня, што ў адпаведнасьці з п.1 арт. 402 ГПК Рэспублікі Беларусь зьяўляецца адной з падставаў для прызнаньня рашэньня цалкам або часткова неабгрунтаваным", – паведамляецца ў скарзе.

Суд Партызанскага раёну ў вынесеным рашэньні прыходзіць да высновы, што падставаў не давяраць выпіскам пра рух грашовых сродкаў па рахунках няма, паколькі дадзеная інфармацыя атрыманая ў адпаведнасьці з патрабаваньнем заканадаўства. "У пісьмовых матэрыялах справы няма копіяў дакументаў, якія маглі б даваць падставы рабіць выснову пра законнасьць атрыманьня дадзенай інфармацыі – копіяў запытаў дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь у кампетэнтныя органы Літоўскай Рэспублікі, копіяў іх адказаў і г.д.", – падкрэсьлівае Стэфановіч, падводзячы да таго, што судовае рашэньне ў гэтай частцы неабгрунтаванае, паколькі суд не падмацоўвае сваё сьцьверджаньне якімі-небудзь доказамі.

*Па-другое*, аўтар скаргі зьвяртае ўвагу на тое, што суддзя пры абгрунтаваньні свайго рашэньня спасылаецца на заканадаўства ў сферы бухгалтарскага ўліку (то бок, на норму матэрыяльнага права, якая не падлягае прымяненьню). У дадзеным выпадку ён лічыць гэта няправільным і незаконным:"Спасылка суда на Закон Рэспублікі Беларусь ад 18.10.1994 году "Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасьці" ў дадзеным выпадку зьяўляецца няправільнай, паколькі ў адпаведнасьці з арт. 1 Закону яго дзеяньне распаўсюджваецца на юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, філіялы і прадстаўніцтвы, у тым ліку замежных арганізацый, гаспадарчыя групы, простыя таварыствы, дзяржаўныя органы (арганізацыі), а таксама на індывідуальных прадпрымальнікаў. Я як фізічная асоба не належу ні да аднаго з названых вышэй суб'ектаў, і дзеяньне дадзенага Закону на мяне не распаўсюджваецца. Гэтак жа, як яно не распаўсюджваецца і на замежныя фонды, якія прадастаўлялі сродкі, паколькі яны не ажыцьцяўляюць сваю дзейнасьць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ня маюць на тэрыторыі Беларусі якіх-небудзь зарэгістраваных прадстаўніцтваў або філіялаў. Мае ўзаемаадносіны з фондамі насілі грамадзянска-прававы характар, і іх даручэньні адносна перадачы грашовых сродкаў трэцім асобам або выкананьня якіх-небудзь працаў (паслугаў) у іх інтарэсах маглі насіць любую, у тым ліку і вусную форму. Дзеючае беларускае заканадаўства, у тым ліку падатковае, не ўтрымлівае і не ўстанаўлівае крытэрыяў і патрабаваньняў да таго, ці павінны быць персаніфікаваны трэція асобы, якім будуць перадавацца сродкі альбо з якімі будуць ажыцьцяўляцца разьлікі, а таксама пераліку дакументаў, якія пацьвярджаюць факт перадачы сродкаў".

У адпаведнасьці з п. 1 арт. 403 ГПК Рэспублікі Беларусь рашэньне суда зьяўляецца незаконным, калі суд ужыў норму матэрыяльнага права, якая не падлягае прымяненьню. Выклаўшы ў скарзе гэтыя і іншыя довады, Валянцін Стэфановіч просіць Менскі гарадзкі суд адмяніць рашэньне суда Партызанскага раёну і спыніць вытворчасьць па справе.

# Праваабарончая дыскусія

## Сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі абмеркавалі ў Еўрапарламенце

23–25 студзеня 2012 г. намесьнік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч і кіраўнік аддзелу Усходняй і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Саша Кулаева прынялі ўдзел у шэрагу сустрэчаў з прадстаўнікамі Еўракамісіі, дэпутатамі і супрацоўнікамі Еўрапейскага парламенту, а таксама нацыянальнымі дэлегацыямі Еўрапарламенту. Сустрэчы арганізаваныя Брусельскім офісам Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека пры ЕЗ.




Саша КУЛАЕВА, Яцэк ПРАТАСЕВІЧ і Валянцін СТЭФАНОВІЧ.

24 студзеня ў Еўрапарламенце адбылася дыскусія па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, у якой акрамя прадстаўнікоў Федэрацыі і ПЦ "Вясна" прынялі ўдзел прадстаўнікі Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі Юры Джыбладзэ, Вольга Захарава, а таксама маці аднаго з прыгавораных да сьмяротнага пакараньня Любоў Кавалёва.

Дэлегацыя праваабаронцаў выказала занепакоенасьць сітуацыяй з правамі чалавека, якая стала значна пагаршацца апошнім часам у Беларусі. Асаблівую трывогу выклікае становішча беларускіх вязьняў: пазбаўленьне Андрэя Саньнікава сустрэчы з адвакатам, зьмена рэжыму адбыцьця пакараньня ў дачыненьні да Міколы Аўтуховіча і Міколы Статкевіча, галадоўка ў СІЗА г. Віцебска і крымінальны перасьлед актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі і іншыя трывожныя тэндэнцыі.

Прадстаўнікі ПЦ "Вясна" і Міжнароднай федэрацыі адзначылі апошнія зьмены заканадаўства ў галіне свабоды мірных сходаў і асацыяцыяў, падрабязьней спыніліся на леташніх зьменах у Крымінальным Кодэксе РБ.

На сустрэчы закранулася і праблема сьмяротнага пакараньня ў Беларусі, якая застаецца апошняй краінай Еўропы і былога СССР, дзе дагэтуль практыкуецца гэты від пакараньня. Прадстаўнікі Еўрапарламенту, і ў прыватнасьці віцэ-прэзідэнт Еўрапарламенту Яцэк Пратасевіч, выказалі словы падтрымкі праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, касацыйная скарга якога не была задаволеная Менскім гарадзкім судом 24 студзеня 2012 г.

Таксама 24 студзеня прадстаўнікі Федэрацыі і ПЦ "Вясна" сустрэліся з Еўракамісарам па пытаньнях пашырэньня палітыкі добрасуседства Штэфанам Фюле. Падчас 40-хвіліннай размовы Штэфан Фюле перадаў шчырыя словы падтрымкі ўсім беларускім праваабаронцам, сябрам ПЦ "Вясна", Алесю Бяляцкаму, якія ў неспрыяльных і складаных умовах працягваюць такую неабходную і важную працу па абароне правоў чалавека. Еўракамісар Фюле выказаў глыбокую занепакоенасьць з нагоды гэтага рашэньня і яшчэ раз заклікаў беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць сп. Бяляцкага, а таксама зьняць з яго ўсе абвінавачаньні, таксама як і з яго намесьніка Валянціна Стэфановіча.

Варта адзначыць, што Міністры замежных справаў Еўразьвязу 23 студзеня на паседжаньні ў Бруселі пастанавілі пашырыць крытэрыі выкарыстаньня рэжыму санкцыяў у адносінах да афіцыйнага Менску. Паводле пашыраных крытэрыяў, пад еўрапейскія санкцыі могуць патрапіць ня толькі асобы, якія бяруць непасрэдны ўдзел у перасьледзе пратэстоўцаў у Беларусі, але і парушальнікі правоў чалавека наогул ды асобы, якія падтрымліваюць беларускі рэжым эканамічна.




Жан-Мары РОГ, Саша КУЛАЕВА, Валянцін СТЭФАНОВІЧ, Штэфан ФЮЛЕ.

# Затрымалі за ўлёткі, аштрафавалі – за лаянку

У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску 16 студзеня пачаўся разбор справы Пятра Іванова, якога затрымалі падчас распаўсюду ўлётак з заклікам да салідарнасьці з Сяргеем Каваленкам.

На судовым працэсе былы кадравы вайсковец, капітан-лейтэнант марскога флоту Пётр Іваноў распавёў, што 6 студзеня яго затрымалі, як толькі ён адышоў ад слупа, на якім прымацаваў улётку. Сьведкі-міліцыянты, у адпаведнасьці з пратаколам пра нецэнзурную лаянку, засьведчылі, што спадар Іваноў падчас затрыманьня іх абражаў. Праўда, паказаньні разышліся: адзін міліцыянт сьцьвярджаў, што Іваноў брыдкасловіў, калі яго папрасілі паказаць пакет з улёткамі, а другі – што затрыманы нецэнзурна выказваўся ўжо ў міліцэйскай машыне.

Суддзя Іна Грабоўская мела падставы скасаваць адміністрацыйную справу, бо, па-першае, паказаньні сьведак былі супярэчлівыя. Па-другое, у пратаколе пра хуліганства няма подпісу Пятра Іванова. Аднак суддзя вырашыла працягваць справу, запатрабаваўшы дадатковыя дакументы, датычныя інцыдэнту. Працяг разгляду прызначаны на 27 студзеня.


Пётр ІВАНОЎ.

На судовым паседжаньні 27 студзеня Пётр Іваноў выступіў з хадайніцтвам пра адвод суддзі Кастрычніцкага райсуда Іны Грабоўскай. Ён заявіў, што суддзя дэманструе аднабаковы падыход, ня хочучы разьбірацца ў сутнасьці справы. Іна Грабоўская адхіліла і гэтае хадайніцтва, і ўсе іншыя, заяўленыя падчас працэсу – не задаволіла ніводнага.

"Сьведкі-міліцыянты блыталіся ў паказаньнях. Адзін з іх проста ў вочы хлусіў, што тлумачыў мне мае правы і абавязкі, хаця майго подпісу ў пратаколе няма, бо пра гэта не было нават гаворкі. На пытаньне, ці адмаўляюся я ставіць свой подпіс, ён таксама ня даў адназначнага адказу. Бо ў выпадку адмовы замест мяне мусілі б падпісацца панятыя. Але супрацоўнік міліцыі заявіў, нібыта я зьбіраўся пратакол "падпісаць пазьней", і з гэткім дакументам мяне нібыта адправілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня", – распавёў Пётр Іваноў.

Ён тлумачыць, што суд разглядаў зусім ня той пратакол, які склалі пры затрыманьні 6 студзеня. Тады супрацоўнікі абвінавацілі Іванова ў закліках да антыдзяржаўных дзеяньняў – яны ўбачылі іх у запрашэньні прыйсьці на суд, каб падтрымаць Сяргея Каваленку. З такім пратаколам паводле загаду намесьніка начальніка Кастрычніцкага РАУС Аляксандра Каліноўскага затрыманага і накіравалі ў ІЧУ. Але праз два дні, 9 студзеня, яму прынесьлі для азнаямленьня іншы пратакол – ужо пра нецэнзурную лаянку. Ён і быў без подпісаў – суддзя гэта бачыла на ўласныя вочы.

"У ізалятар Іванова проста не прынялі б з такім "дакументам". Значыць, даставілі яго з іншым пратаколам, які потым кудысьці зьнік. Затое ў судовай справе зьявілася тлумачэньне: маўляў, не пацьвердзіліся падазрэньні ў тым, што Іваноў заклікаў на нейкія акцыі. У яго дома правяліператрус, а ў міліцыі канфіскавалі ўлёткі", – адзначыў былы супрацоўнік МУС, таксама актывіст кампаніі "Гавары праўду" Сяргей Парсюкевіч.

Ён хацеў быць прадстаўніком Іванова на судзе. Але суддзя Грабоўская не дазволіла, спаслаўшыся на тое, што ў Пятра Іванова ёсьць адвакат.

Суддзя Іна Грабоўская палічыла сьведчаньні супрацоўнікаў міліцыі поўнымі, аб'ектыўнымі ды вартымі поўнага даверу і прысудзіла Пятру Іванову штраф – 140 тысячаў рублёў.

Пётр Іваноў зьбіраецца абскардзіць судовую пастанову: "Буду абскарджваць, бо тут безьліч парушэньняў. Праінфармую пра гэты суд і амбасаду Расійскай Федэрацыі, і асабіста Аляксандра Лукашэнку – абодвум гэтым адрасатам я дасылаў і матэрыялы пра маё затрыманьне, і ўлёткі, якія сталі прычынай канфлікту. Таго, што я іх распаўсюджваў, я не хаваю. Бо лічу недапушчальным для любой дзяржавы, калі яе грамадзянаў трымаюць у турмах паводле палітычных перакана్ньняў, як Сяргея Каваленку".

# Прымусовае "лячэньне" ад сумленьня

Жыхар Менску Аляксандр Круты, да якога суд прызначыў прымяніць прымусовыя меры бясьпекі і лячэньня, даслаў адказ на ліст гомельскага актывіста кааліцыі "Наша альтэрнатыва" Кастуся Жукоўскага. Аляксандр Круты піша, што на дадзены момант, а дакладней – з 29 лістапада, ён знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскай, і там чакае "этапу ў Навінкі на прымусовае "лячэньне" ад сумленьня". "Было б дзіўным, калі б судова-медыцынская экспертыза не разглядзела ў мяне самы галоўны беларускі дыягназ", – адзначае вязень. Ён піша, што знаходзіцца ў камеры №29 "для асобаў, вызваленых ад крымінальнай адказнасьці". "Сам факт існаваньня такіх камераў у беларускіх турмах зьяўляецца прыкладам класічнага абсюрду, і варты ўважлівага вывучэньня. На мой суд мяне не дапусьцілі. Увесь час з моманту затрыманьня да майго пераезду ў псіхіятрычную бальніцу не ўваходзіць ні ў якія тэрміны пакараньня. У такіх камерах можна чакаць этапу на Гальцюнішкі (стацыянар для асобаў, што ўчынілі злачынствы, якія маюць псіхічныя захворваньні) да 1,5 году", – піша ў лісьце Аляксандр Круты.

Рашэньне аб зьмяшчэньні Аляксандра Крутога ў такі стацыянар прыняў суд у сьнежні 2011 году. Дачка вязьня Інэса Крутая ня згодная з рашэньнем суда і лічыць, што бацьку пакаралі за тое, што адстойваў сваю пазіцыю.

Дачка лічыць, што перасьлед бацькі зьвязаны са справай аб тэракце ў менскім метро, па якой яна праходзіла пацярпелай, а бацька абараняў яе інтарэсы. У час працэсу Аляксандр Круты задаваў суду "нязручныя пытаньні" і прапаноўваў адмяніць сьмяротную кару. Інэса Крутая мяркуе, што бацьку ўзялі пад варту, каб адхіліць ад удзелу ў судзе.

Нагадаем, 20 верасьня сп. Круты быў затрыманы паводле абвінавачаньня ў хуліганстве.

# Сьпіс палітычных вязьняў

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" прызнае наяўнасьць у Беларусі палітычных вязьняў – асобаў, якія незаконна пазбаўленыя свабоды за свае палітычныя перакананьні, і патрабуе іх неадкладнага вызваленьня.**

**1. Мікалай Аўтуховіч** – узяты пад варту з 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 траўня 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеяньні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў зьняволеньня ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэньнем суда ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцьця пакараньня былі зьмененыя на больш жорсткія, вязень пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г. Гародні.

**2. Андрэй Саньнікаў** – узяты пад варту з 20 сьнежня 2010 г., асуджаны 14 траўня 2011 г. судом Партызанскага раёну г. Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, зьнішчэньнем маёмасьці і ўзброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 5 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №3 у Віцебску.

**3. Мікалай Статкевіч** – узяты пад варту з 20 сьнежня 2010 г., асуджаны 26 траўня 2011 г. судом Партызанскага раёну г. Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, зьнішчэньнем маёмасьці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэньнем суда ад 12 студзеня 2012 г. умовы адбыцьця пакараньня былі зьмененыя на больш жорсткія, вязень пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.

**4. Зьміцер Бандарэнка** – узяты пад варту з 20 сьнежня 2010 г., асуджаны 27 красавіка 2011 г. судом Першамайскага раёну г. Менску па ч.1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак, альбо ўдзел у іх) да 2 гадоў зьняволеньня ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.

**5. Павел Севярынец** – узяты пад варту з 20 сьнежня 2010 г., асуджаны 16 траўня 2011 г. судом Заводзкага раёну г. Менску па ч.1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак, альбо ўдзел у іх) да 3 гадоў абмежаваньня волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в. Куплін.

**6. Зьміцер Дашкевіч** – узяты пад варту з 18 сьнежня 2010 г., асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёну г. Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў зьняволеньня ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.

**7. Эдуард Лобаў** – узяты пад варту з 18 сьнежня 2010 г., асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёну г. Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў зьняволеньня ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.

**8. Сяргей Каваленка** – узяты пад варту з 22 сьнежня 2011 г. па новай крымінальнай справе па арт. 415 КК (парушэньне ўмоваў адбыцьця пакараньня ў выглядзе абмежаваньня волі). Яшчэ 14 траўня 2010 г. ён быў асуджаны па ч. 1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак) Кастрычніцкім судом г. Віцебска да 3 гадоў абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

**9. Алесь Бяляцкі** – узяты пад варту з 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёну г. Менску па ч. 2 арт. 243 КК (ухойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Знаходзіцца ў турме №8 у Жодзіна.

**10. Мікалай Дзядок** – узяты пад варту з 3 верасьня 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводзкага раёну г. Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 4,5 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.

**11. Ігар Аліневіч** – узяты пад варту з 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводзкага раёну г. Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства), ч. 2 і ч. 3 арт. 218 КК (пашкоджаньне маёмасьці агульнанебясьпечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.

**12. Аляксандр Францкевіч** – узяты пад варту з 3 верасьня 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводзкага раёну г. Менску па ч. 2 арт. 351 КК (наўмыснае зьнішчэньне кампутарнай інфармацыі) і ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 3 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.

**13. * Яўген Васьковіч** – узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёну і г. Бабруйску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) і ч. 3 арт. 218 КК (пашкоджаньне маёмасьці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэньнем суда ад 12 кастрычіка 2011 г. умовы адбыцьця пакараньня былі зьмененыя на больш жорсткія,зьняволены пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.

**14. * Арцём Пракапенка** – узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёну і г. Бабруйску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) і ч. 3 арт. 218 КК (пашкоджаньне маёмасьці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў зьняволеньня ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў турме №17 у Шклове.

**15. * Павел Сырамолатаў** – узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёну і г. Бабруйску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) і ч. 3 арт. 218 КК (пашкоджаньне маёмасьці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў зьняволеньнява ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.

**У дзеяньнях дадзеных асобаў маюцца прыкметы правапарушэньня, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеяньняў і празмернасьць вынесенага пакараньня. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковы тэрмін зьняволеньня для зьдзейсьненага ўчынку і ўтрыманьне надалей іх у зьняволеньні палітычна матываванае.*

# Жорсткая рэзалюцыя па Беларусі

Парламенцкая асамблея Рады Еўропы на зімовай сесіі ў Страсбургу прыняла рэзалюцыю аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. У рэзалюцыі прапанавана не аднаўляць кантакты ПАРЕ з беларускімі ўладамі на высокім узроўні да таго часу, пакуль у краіне ня будзе ўведзены мараторый на сьмяротнае пакараньне. Да гэтага ж моманту павінна заставацца замарожанай і заяўка Беларусі на вяртаньне Нацыянальнаму сходу статусу сьпецыяльнага запрошанага ў ПАРЕ. У рэзалюцыі таксама ўтрымліваецца заклік да дзяржаваў-сябраў РЕ "далучыцца да рэжыму адрасных санкцыяў ЕЗ у дачыненьні да Беларусі да тых часоў, пакуль ня будуць вызваленыя і цалкам рэабілітаваныя ўсе палітзьняволеныя".

За прыняцьце рэзалюцыі прагаласавала 111 парламентарыяў, супраць – 10, устрымаліся 6.

Адкрыў сесію адмысловы дакладчык ПАРЕ па сітуацыі ў Беларусі, эстонскі парламентарый Андрэс Хэркель. Галоўная выснова справаздачы А. Хэркеля – сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршаецца, асабліва пасьля прэзідэнцкіх выбараў сьнежня 2010 году. А. Хэркель заклікаў беларускія ўлады неадкладна вызваліць і рэабілітаваць палітзьняволеных. Ён выступіў за адрасныя санкцыі супраць беларускіх уладаў, пакуль палітвязьні ня будуць вызваленыя. Ён адзначыў дзейснасьць амерыканскіх санкцыяў супраць беларускіх дзяржаўных кампаніяў. Нельга здрадзіць беларускаму народу з-за сваіх эканамічных інтарэсаў, дадаў ён.

Судакладчыца Марылюіз Бэк падтрымала справаздачу Хэркеля. Яна падкрэсьліла, што Беларусь належыць да сям'і еўрапейскіх народаў, але захаваньне сьмяротнага пакараньня пакідае яе па-за Еўропай. Еўропа мусіць запрасіць Беларусь вярнуцца ў еўрапейскую сям'ю народаў і абвясьціць мараторый на сьмяротнае пакараньне. Яна згадала пра справу аб тэракце ў Менску і адзначыла мноства няясласьцяў у гэтай справе і заклікала расейскіх калегаў ужыць свае магчымасьці ўплыву на беларускія ўлады.

Прадстаўнік Польшчы Анджэй Галіцкі (Еўрапейская народная партыя) выступіў з ініцыятывай падтрымаць прапанову аб вылучэньні Алеся Бяляцкага на атрыманьне Нобелеўскай прэміі міру.

А. Хэркель зноў падкрэсьліў, што адрасныя санкцыі скіраваныя не на народ Беларусі, як сьцьвярджалі прадстаўнікі Расеі, а на тых, хто яго ўціскае. Ён падтрымаў прапановы аб ужываньні да беларускіх уладаў ня толькі палітычных і эканамічных, але і маральных санкцыяў, датычных, напрыклад, спорту, конкурсу Еўрабачаньня.

Дакумент цалкам падтрымлівае мэтавыя санкцыі ЕЗ, якія павінны быць узмоцненыя, і заклікае краіны Рады Еўропы далучыцца да іх, пакуль ня будуць вызваленыя і рэабілітаваныя ўсе палітычныя зьняволеныя ў Беларусі. Але ня толькі гэтай праблеме надалі ўвагу еўрапейскія палітыкі, адзначыў удзельнік беларускай дэлегацыі кіраўнік "Руху за свабоду" Аляксандр Мілінкевіч: "Увага засяроджаная на палітвязьнях, гэта абсалютна цьвёрдая ўмова, і абсалютна слушна, што ня будзе ніякіх кантактаў з беларускай уладай, пакуль ня будуць вызваленыя палітвязьні. Алесь Бяляцкі – гэта асобная справа, ён не палітык, ён не змагаецца за крэсла дзесьці ва ўладзе. Гэта чалавек сумленьня, чалавек, які мог застацца на Захадзе, яму казалі: застаньcя, цябе там арыштуюць. Але ён усё роўна прыехаў, бо ўвесь час казаў: не бойцеся, і казаў, што сваім прыкладам павінен гэта паказаць. Сёньня Алесь Бяляцкі быў асабліва моцна падтрыманы, намінаваньнем на Нобелеўскую прэмію. Многія дэпутаты падыходзілі і падпісваліся за ягоную намінацыю".

Як адзначыў Аляксандр Мілінкевіч, вельмі эмацыйна выступіла перад Радай Еўропы маці аднаго з абвінавачаных у менскім тэракце Любоў Кавалёва. І яе падтрымалі, заявіўшы, што ў Беларусі ня можа быць сьмяротнага пакараньня, калі яна хоча быць сябрам еўрапейскай супольнасьці.

# Камітэт ААН заклікаў не выконваць прысуд

Любоў Кавалёва падала заяву ў Канстытуцыйны суд з тым, каб ён даў заключэньне аб прызнаньні беларускага крымінальна-выканаўчага заканадаўства не адпаведным Канстытуцыі і міжнародным нормам. Размова ідзе пра тое, каб да разгляду Камітэтам ААН па правах чалавека звароту сям'і Кавалёвых прыгавор суда ня быў прыведзены ў выкананьне. Крымінальна-выканаўчым кодэксам не прадугледжана прыпыненьне выкананьня прысуду ў сувязі з пачаткам працэдуры разгляду па справе.

"Я зьвярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН з заявай ад імя Уладзіслава, якая была прынятая да разгляду. Кампетэнтныя органы Рэспублікі Беларусь, праз прадстаўніцтва Беларусі ў Жэневе, праінфармаваныя пра неабходнасьць ужываньня прамежкавых мераў абароны, якія дазволяць не прыводзіць у выкананьне прысуд у дачыненьні да Дзьмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, пакуль справа знаходзіцца на разглядзе ў Камітэце ААН па правах чалавека," – патлумачыла Любоў Кавалёва.

Яна адзначыла, што адказ быў перададзены беларускаму боку яшчэ ў сьнежні. Таксама Любоў Кавалёва падала скаргу ў Генеральную пракуратуру Беларусі наконт зьнікненьня ў СІЗА КДБ ужо двух даверанасьцяў, падрыхтаваных сынам і яго адвакатам, каб яна магла ад імя Уладзіслава Кавалёва зьвяртацца ў міжнародныя інстанцыі. Першая даверанасьць была падрыхтаваная ў сьнежні 2011 году, другая – у студзені 2012 году, іх перадалі на подпіс да кіраўніцтва СІЗА КДБ, і далейшы лёс гэтых дакументаў невядомы.

Любоў Кавалёва паведаміла, што сын і яго адвакат закончылі азнаямленьне з пратаколамі судовых паседжаньняў і рыхтуюць наглядную скаргу і заўвагі на пратакол.


Любоў КАВАЛЁВА.

31 студзеня Любоў Кавалёва атрымала ліст ад сына. Уладзіслаў спадзяецца на сустрэчу ў лютым, цікавіцца яе паездкай у Страсбург: "Мамуля, прывет табе вялікі, люблю цябе моцна і абдымаю. Дзякуй усім за падтрымку. Пакуль вы са мной, мяне на многа хопіць. Пішыце часьцей, я таксама пастараюся".

# Журналістаў затрымлівалі больш за 150 разоў

## БАЖ падрыхтавала агляд "Парушэньні правоў журналістаў і СМІ ў 2011 годзе"

Прапануем вам галоўныя высновы справаздачы.

"Вызначальны ўплыў на разьвіцьцё сітуацыі са СМІ ў Беларусі ў 2011 г. зрабіў палітычны і эканамічны крызіс у краіне пасьля прэзідэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2011 г. і наступных рэпрэсіяў супраць апазіцыі і грамадзянскай супольнасьці", – гаворыцца ў аглядзе.

Найбольш сур'ёзнымі парушэньнямі правоў незалежных СМІ і журналістаў у 2011 г. былі:

– крымінальны перасьлед журналістаў;

– масавыя затрыманьні журналістаў падчас акцыяў пратэсту на працягу ўсяго 2011 г.;

– пазбаўленьне "Аўтарадыё" права на вяшчаньне і пазовы аб спыненьні выпуску газет "Народная воля" і "Наша Ніва";

– вяртаньне ў Беларусь "чорных" сьпісаў артыстаў, літаратараў, музыкаў;

– абмежаваньне свабоды ў інтэрнэце;

– узмацненьне эканамічнай дыскрымінацыі незалежных СМІ.

Пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. супраць сямі журналістаў і сябраў БАЖ былі заведзеныя крымінальныя справы па абвінавачаньні іх у арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх, альбо ў арганізацыі дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак.

На працягу ўсяго 2011 г. супрацоўнікі праваахоўных органаў і сілавых структураў паўсюдна затрымлівалі журналістаў у часе выкананьня імі сваіх прафесійных абавязкаў на масавых акцыях. Найбольш масавыя затрыманьні журналістаў адбываліся ў часе летніх акцыяў пратэсту, што былі арганізаваныя праз сацыяльныя сеткі ("акцыі маўчаньня"). Усяго за 2011 г. БАЖ зафіксавала больш за 150 выпадкаў затрыманьня журналістаў у часе выкананьня імі прафесійных абавязкаў.

Яшчэ адным трывожным паказчыкам стану свабоды выказваньня стала вяртаньне ў Беларусь у 2011 г. сьпісу "дзеячаў мастацтва і творчых калектываў", забароненых для згадваньня ў дзяржаўных СМІ і на FM-станцыях. У "чорны сьпіс" трапілі ня толькі беларускія, але і замежныя музыкі, артысты, пісьменьнікі, мастакі, сярод якіх групы "ДДТ" і "Pet Shop Boys", пісьменьнікі Андрэй Бітаў і Эдуард Усьпенскі, драматург Том Стопард, акторы Джуд Лоў, Кевін Спэйсі і інш.

Вясной 2011 г. генеральная пракуратура Беларусі вынесла пастанову аб абмежаваньні доступу да папулярных беларускіх інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў "Хартыя 97" і "Белорусский партизан", spring96.org (сайт Праваабарончага цэнтру "Вясна"), prokopovich.net, prokopovi.ch, блог Яўгена Ліпковіча ў ЖЖ. Інтэрнэт-правайдэрам было загадана закрыць доступ да гэтых сайтаў для дзяржаўных арганізацыяў, установаў адукацыі і культуры. Да пачатку 2012 г. у сьпісы абмежаванага доступу былі ўключаныя каля 60 сайтаў.

# Аштрафавалі на 1 400 000 рублёў

Перад судовым паседжаньнем Георгі Станкевіч аднёс у суд свой бальнічны ліст – па прычыне хваробы ён ня змог прысутнічаць на судзе, які быў прызначаны на 4 студзеня. Суддзя Вольга Белавус расцаніла гэта як адмову ўдзельнічаць у працэсе ўвогуле.

"Калі я прынёс бюлетэнь, суддзя сказала, што ўсё адно будзе мяне судзіць, бо сканчаюцца два месяцы з часу зафіксаванага ў пратаколе правапарушэньня, і ў такім выпадку справу трэба спыняць. Я сказаў, што буду чакаць афіцыйную позву, але 6 студзеня суддзя была гатова праводзіць працэс у маю адсутнасьць. Раз так, то ў суд я вырашыў пайсьці, хоць і не зьбіраўся. Працэс таксама праходзіў з парушэньнямі: суддзя не задаволіла маё хадайніцтва пра прысутнасьць адваката на працэсе, заявіўшы, што можа запрасіць дзяжурнага адваката замест таго, чые паслугі я ўжо пасьпеў аплаціць. Але і дзяжурнага адваката чакаць не сталі", – распавёў сп. Станкевіч.

Ён дадаў, што і прысутнасьць перакладчыка была толькі намінальнай: у суд запрасілі настаўніцу беларускай мовы, якая не валодае навыкамі сінхроннага перакладу.



Георгі СТАНКЕВІЧ.

Абураны тым, як вядзецца працэс, Георгі Станкевіч вырашыў сысьці. У ягоную адсутнасьць яму прысудзілі штраф памерам 40 базавых велічыняў.

Георгі Станкевіч падаў касацыйную скаргу ў Віцебскі абласны суд, дзе згадаў парушэньні падчас судовага працэсу. Спадар Станкевіч просіць адмяніць судовую пастанову, бо суддзя Вольга Белавус па сутнасьці адмовіла яму ў праве на абарону ў судзе. У яго была заключана дамова з адвакатам, які быў заняты ў той дзень, на які суддзя Белавус прызначыла працэс. Перанесьці суд на іншы дзень яна не пагадзілася, заявіўшы, што да Георгія Станкевіча могуць выклікаць іншага абаронцу. Але і гэта не было зроблена.

Нагадаем, што 5 лістапада сп. Станкевіча затрымалі падчас распаўсюду выданьня нібыта пасьля ананімнага тэлефоннага званку ў РАУС. Як было запісана ў пратаколе, у міліцыю нібыта патэлефанавалі дзьве жыхаркі райцэнтру Бешанковічы, якія паведамілі, што не выпісваюць "Крывінку", але знайшлі яе ў сваіх паштовых скрынях. Суд па яго справе адбыўся толькі з другой спробы. Першы пратакол, складзены на яго пасьля затрыманьня 5 лістапада, суддзя Вольга Белавус адправіла ў міліцыю на дапрацоўку. Пратакол перапісалі, але, як лічыць спадар Станкевіч, сьледчыя дзеяньні па яго справе праводзіліся з парушэньнямі Працэсуальна-выканаўчага Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Ён зьвяртаўся ў суд з заявай, каб справу супраць яго скасавалі ўвогуле.

У красавіку 2009 году спадара Станкевіча таксама затрымлівалі падчас распаўсюду "Крывінкі". Тады паводле аналагічнага абвінавачаньня яму таксама быў прысуджаны штраф, але ў два разы меншы – памерам 700 тысячаў рублёў.

# Магілёвец Аляксей Паўлоўскі зноў застаўся без працы

Кіраўніцтва будаўнічай арганізацыі "Прамжылбуд" паведаміла прафсаюзнаму актывісту пра тое, што 10 лютага ў яго заканчваецца працоўны кантракт і працягваць яго з ім не будуць. Прычыны звальненьня не называліся, аднак актывіст іх і так ведае. "Я пастаянна змагаўся з кіраўніцтвам сваёй арганізацыі за тое, каб у рабочых былі лепшыя ўмовы працы. Мы працуем ва ўмовах поўнай антысанітарыі, нашыя працоўныя месцы неатэставаныя. Муляры выходзяць на пенсію ў 60 гадоў, аднак паводле закону павінны гэта рабіць на пяць гадоў раней, бо лічыцца, што ў нас шкодная праца. Аднак дамагчыся выкананьня працоўнага заканадаўства вельмі складана", – распавёў Аляксей Паўлоўскі.

Акрамя гэтага, будучы сябрам незалежнага прафсаюзу РЭП, Аляксей Паўлоўскі дамогся таго, што на цяперашні будаўнічы аб'ект, дзе выконвае працу "Прамжылбуд" па будаўніцтве новага дрэваапрацоўчага заводу, прыехала абласная праверка. "Праверка спраўджвае факты, якія былі выкладзеныя ў калектыўным звароце, і яны ўжо пацьвярджаюцца. Верагодна, яна прынесла шмат праблемаў кіраўніцтву, і яно вырашыла не працягваць са мной працоўны кантракт", – адзначыў Аляксей.

Пасьля таго, як стала вядома, што кіраўніцтва будаўнічай арганізацыі "Прамжылбуд" не працягвае працоўны кантракт з муляром Аляксеем Паўлоўскім, уся брыгада колькасьцю 15 чалавек, дзе працаваў Аляксей, падала заявы на скасаваньне кантрактаў. Акрамя таго, брыгада Спірыдонава ў поўным складзе напісала заявы аб выхадзе з прадзяржаўнага прафсаюзу.

"Мне вельмі прыемна, што сваімі паводзінамі я дасягнуў аўтарытэту сярод свайго працоўнага калектыву, які ў поўным складзе адрэагаваў на маё звальненьне заявамі на скасаваньне працоўных кантрактаў. Чакаем, як адрэагуе на гэта наш дырэктар, спадар Балдэнка", – адзначыў Аляксей Паўлоўскі.

Аднак пад ціскам адміністрацыі "Прамжылбуда" 11 з 15 рабочых брыгады Спірыдонава адклікала свае заявы на звальненьне. Муляр будаўнічай арганізацыі Аляксей Паўлоўскі адзначае, што калі стала вядома, што з ім не будзе працягнуты кантракт, то ўсе рабочыя ягонай брыгады разам з брыгадзірам напісалі ў знак салідарнасьці з ім заявы на звальненьне.



Аляксей ПАЎЛОЎСКІ.

"Рабочыя мяне падтрымлівалі. Калі прыязджалі журналісты і чыноўнікі, яны трымаліся гэтай пазіцыі, аднак паступова іх па адным пачалі выклікаць у аддзел кадраў, дзе на іх ціснулі і прымушалі напісаць заяву аб тым, што яны адмаўляюцца звальняцца ў знак салідарнасьці са мной", – распавёў Аляксей Паўлоўскі.

11 студзеня стала вядома, што адмовіліся звальняцца двое рабочых, праз дзень іх было ўжо 11.

Пасьля скаргі магілёўскага актывіста незалежнага прафсаюзу Радыёэлектроннай прамысловасьці Аляксея Паўлоўскага ў Камітэт па архітэтуры і будаўніцтве Магілёўскага аблвыканкама была праведзена праверка. Па выніках праверкі актывіст незалежнага прафсаюзу атрымаў адказ, у якім гаворыцца, што бытавыя памяшканьні субпадрадных арганізацыяў былі перамешчаныя на пляцоўку будаўнічага аб'екту, і да іх было падведзена асьвятленьне. Пры выбарачным аглядзе бытовак у іх былі ўмывальнікі і пітная вада, а субпадрадныя арганізацыі "Магілёўтэхмантаж" і "Магілёўскі ДБК" прадаставілі копіі карт атэстацыі працоўных месцаў па ўмовах працы па прафесіях "мантажнік тэхналагічнага абсталяваньня і зьвязаных з ім канструкцыяў" і "мантажнік будаўнічых канструкцыяў".

Аляксей Паўлоўскі абураны такім адказам, бо ракавіны і ўмывальнікі ў некаторых бытоўках былі ўсталяваныя непасрэдна перад праверкай, і камісія наведала менавіта гэтыя бытоўкі.

"Усяго пару ўмывальнікаў было ўсталявана перад прыходам камісіі ў тамбуры бытовак. Аднак і імі немагчыма карыстацца, бо няма ракавінаў для зьліва вады. Даплаты мантажнікам "Магілёўтэхмантаж" за цяжкія ўмовы працы, гэтаксама як і адпачынку, не прадастаўляецца. Картаў атэстацыі працоўных месцаў ніхто ня бачыў", – распавёў Аляксей Паўлоўскі.

"Падчас тэлефоннай размовы з правяраючай Ларысай Веліх мне паведамілі, што па выніках атэстацыі павінна адбывацца даплата ў памеры 0,14% да тарыфнай стаўкі першага разраду і прадастаўляцца дадатковы адпачынак на 7 дзён", – працягнуў муляр.

"Калі ж я патэлефанаваў у Упраўленьне №2 "Магілёўтэхмантаж", то яе супрацоўніца Людміла Кабышава паведаміла, што зарплата мантажніка 5-га разраду складае каля двух мільёнаў рублёў, даплатаў па шкоднасьці няма і дадатковыя дні для адпачынку не прадастаўляюцца. Дык што тады атрымліваецца? Правяраючым прадастаўляюць адны зьвесткі, а рабочым даюць іншыя?" – абураецца Аляксей Паўлоўскі.

Актывіст незалежнага прафсаюзу РЭП адзначыў, што па пытаньні аб індэксацыі заробкаў і прадастаўленьні дадатковых дзён для адпачынку мераў ніякіх не было прынята, а была толькі адпіска зьвяртацца, калі ня згодны з адказам, у суд. Гэты адказ ён зьбіраецца абскарджваць у вышэйшых інстанцыях.

Нагадаем, што Аляксей Паўлоўскі адпрацаваў у "Прамжылбудзе" па кантракце адзін год. Дагэтуль ён працаваў у будаўнічай арганізацыі "Пакроў", адкуль быў таксама звольнены за сваю актыўную прафсаюзную дзейнасьць. Будаўнічы трэст №12, а таксама іншыя будаўнічыя арганізацыі пастаянна адмаўляюць яму ў працаўладкаваньні, нягледзячы на наяўнасьць вакантных месцаў.

# Беларускую мову выціскаюць з ВНУ

У ВНУ краіны будзе скарочаны шэраг сьпецыяльнасьцяў, і перадусім тых, на якіх рыхтуюць адмыслоўцаў у галіне беларускай мовы. У Міністэрстве адукацыі тлумачаць гэта незапатрабаванасьцю такіх адмыслоўцаў. Многія лічаць, што скарачэньне навучаньня па беларускамоўных сьпецыяльнасьцях сьведчыць пра катастрафічны стан беларускай мовы і сярэдняй адукацыі агулам.

Шэраг сьпецыяльнасьцяў па беларускай філалогіі і журналістыцы будуць скасаваныя ў Педагагічным універсітэце імя Танка ў Менску і ў Магілёўскім універсітэце імя Куляшова. У Міністэрстве адукацыі пацьвярджаюць гэты факт, але адмаўляюцца паведаміць, ці абмяжоўваецца скарачэньне навучаньня беларускай мове толькі Магілёвам і Менскам. У прыватнасьці, намесьнік кіраўніка ўправы вышэйшай адукацыі Эдуард Шаўцоў сказаў наступнае: "Натуральна, што мы ажыцьцяўляем падрыхтоўку ў адпаведнасьці з неабходнасьцю па розных сьпецыяльнасьцях. І калі некаторыя ВНУ ня выканалі набор, які яны самі і планавалі, то, верагодна, – так, набор будзе скарачацца".

Скарачэньне навучаньня беларускай мове ў вышэйшай школе яшчэ больш паглыбіць заняпад беларускай мовы, якая і цяпер у катастрафічным стане, мяркуе намесьніца старшыні грамадзкай арганізацыі "Таварыства беларускай школы" Тамара Мацкевіч: "У нашай краіне мэтанакіравана зьнішчаецца тое, што дзяржава абавязаная падтрымліваць. І зьнішчаецца гэта дзеля таго, каб усьведамленьне сябе беларусамі як нацыяй не пранікала глыбока ў грамадзтва і не выхоўвалася ў нашых дзяцей. І зьнішчэньне мовы – адзін са сродкаў такой палітыкі. Бо калі беларусы ўсьвядомяць сябе найперш беларусамі, усьвядомяць сваю далучанасьць да еўрапейскай цывілізацыйнай прасторы, што дэмакратыя – наш цывілізацыйны выбар, як і ўсіх еўрапейцаў, гэта ўсё зараз нашаму рэжыму не на руку".



Алег ТРУСАЎ.

Старшыня грамадзкай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы" Алег Трусаў мяркуе, што скарачэньне беларускамоўных сьпецыяльнасьцяў у ВНУ сьведчыць перадусім пра заняпад сярэдняй школы ў Беларусі. Гаворыць Алег Трусаў: "Гэта сьведчыць, што сістэма сярэдняй адукацыі ў Беларусі знаходзіцца ў катастрафічным стане. І ня толькі беларуская мова – ніхто ня хоча паступаць і на выкладчыкаў матэматыкі і фізікі. Бо настаўнікам плацяць сьмешныя грошы. Тут глабальная катастрофа адукацыйная, а чыноўнікі палец аб палец не крануць, а толькі крычаць пра балонскі працэс. А школа наша, у параўнаньні з савецкім часам, цалкам дэградавала. Ну, а мова заўсёды была прадметам, які прадстаўнікі расейскай "пятай калоны" зьнішчаюць усе дзьвесьце гадоў. І, вядома, як толькі ёсьць якая магчымасьць, то адразу б'юць па беларушчыне – выконваюць пажаданьне Пуціна аб далучэньні шасьці губерняў".

Паводле словаў Алега Трусава, каб выправіць становішча, дастаткова адным прэзідэнцкім указам прыраўняць заробак настаўніка да заробку міліцыянта. І замест недабору абітурыентаў у ВНУ зьявяцца чэргі, у тым ліку на беларускія сьпецыяльнасьці.

# Беларусь ня можа далучыцца да Балонскага працэсу, бо ў краіне няма акадэмічных свабодаў

Беларусь не гатовая далучыцца да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. Да такой высновы прыйшла працоўная група на сваім паседжаньні ў Капенгагене.

У заключэньні працоўнай групы Балонскага працэсу напісана: Беларусь не трымаецца прынцыпаў і каштоўнасьцяў арганізацыі. У Беларусі няма патрэбнай ступені акадэмічных свабодаў, інстытуцыянальнай аўтаноміі і самакіраваньня ў сістэме вышэйшай адукацыі, гаворыцца ў паведамленьні Міністэрства навукі, інавацыяў і вышэйшай адукацыі Даніі.

На думку міністра навукі Даніі Мортэна Астэргаарда, які ўзначальвае працоўную групу, Беларусі неабходна правесьці рэформы. "Мы спадзяемся, што Еўрапейская прастора вышэйшай адукацыі ў адзін выдатны дзень зможа вітаць Беларусь у якасьці сябра, калі будуць праведзеныя неабходныя рэформы, каб выконваць крытэры далучэньня да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі і забесьпячэньня правоў студэнтаў", – заявіў Астэргаард.

Сябра грамадзкага Балонскага камітэту прафесар Уладзімір Дунаеў заявіў, што рашэньне Балонскай групы не канчатковае і носіць рэкамендацыйны характар. На яго думку, канчатковае рашэньне будзе прынята еўрапейскімі міністрамі адукацыі 26–27 красавіка ў Бухарэсьце.

Грамадзкі Балонскі камітэт распрацаваў "дарожную мапу", каб Беларусь далучылася да Балонскага працэсу, паведаміў Дунаеў.

*Асноўныя пункты:*

1. Спыніць адлічэньні з ВНУ і ўжываньне іншых пакараньняў у дачыненьні да студэнтаў, выкладчыкаў і іншых супрацоўнікаў ВНУ за ўдзел у палітычных акцыях ці грамадзкіх арганізацыях. Выбарнасьць рэктараў і іх падсправаздачнасьць акадэмічнай супольнасьці – таксама важны складнік руху да Балонскага працэсу. Студэнцкае самакіраваньне павінна быць пазбаўленае палітычнага кантролю створанага ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі "Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі" (БРСМ) і "ідэалагічнай вертыкалі" ўлады.

2. Пераход сістэмы адукацыі на еўрапейскую мадэль вышэйшай адукацыі і замацаваньне аўтаноміі ВНУ, гарантыяў акадэмічных свабодаў для персаналу і студэнтаў.

3. Рэфармаваньне сістэмы акадэмічных ступеняў і кваліфікацый, а таксама сістэмы кантролю якасьці адукацыі.



"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.